# АБУДЖЭНЬНЕ

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

ВЕСЬНІК МАГІЛЁЎСКАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Шаноўныя сябры! Вы трымаеце ў руках першы нумар бюлетэня Магілёўскай Рады Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне". Выпускаць яго сёньня няпроста, таму пакуль што нельга планаваць яго перыядычнасьць, аб'ём і іншыя паказчыкі. Задача бюлетэня - інфармаваць народ Магілёўшчыны аб дзейнасьці БНФ і яго звеньняў, аб найболыш значных падзеях у горадзе і вобласьці (магчыма, са сваёй - безумоўна, суб'ектыўнай - характарыстыкай гэтых падзей). Артыкулы і іншыя матэрыялы будуць друкавацца ў бюлетэні на той мове (беларускай ці рускай), на якой яны паступаюць да нас (за рэдкімі выключэньнямі).

Назва бюлетэня, на наш погляд, адпавядае таму, што адбываецца сёньня ў грамадстве, аднак да І абласной канферэнцыі БНФ, якая адбудзецца ў канцы гэтага года, будзем лічыць назву часовай. Сярод іншых пытаньняў канферэнцыя разгледзіць і пытаньне аб выданьні бюлетэня, зацьвердзіць яго назву (магчыма, другую) і рэдактара з намесьнікам.

Вашы пажаданьні, просьбы і пытаньні накіроўвайце на адрас: 212030, Магілёў, Ленінская, 33, Булавацкаму М.П. А калі захочаце атрымаць адказ, дашліце канвэрт з падпісаным зваротным адрасам: на жаль, уласных сродкаў бюлетэнь пакуль што не мае.



ЖНІВЕНЬ

№1 1989

На сёньняшні дзень Народны Фронт Магілева мае такую структуру. Існуе Каардынацыйная Рада, старшынёй якой абраны У.В.Голуб (хатні тэлефон: 41-03-72). Каардынацыйная Рада рэгіструе групы падтрымкі БНФ (на канферэнцыю будуць дэлегіраваны толькі прадстаўнікі зарэгістраваных груп падтрымкі). Групы падтрымкі могуць стварацца па месцы жыхарства, па месцы працы ці пры таварыствах, аб'яднаньнях па інтарэсах людзьмі ў колькасьці ня менш трох чалавек незалежна ад іх прыналежнасьці да якой-небудзь партыі, да якой-небудзь рэлігіі, да той ці іншай нацыянальнасьці, таго ці іншага падданства і г.д. Прадстаўнікі найболыш буйных або найболыш актыўных груп падтрымкі ўключаюцца ў Раду ўпаўнаважаных, якая ў сучасны момант зьяўляецца галоўным кіруючым органам НФ у Магілёве. Каардынацыйная Рада поўным складам уваходзіць у Раду ўпаўнаважаных і зьяўляецца як бы яе выканаўчым камітэтам.

СЯБРЫ! СТВАРАЙЦЕ ГРУПЫ ПАДТРЫМКІ БНФ!

# БНФ і КПБ

В. Голуб

Адно з найбольш вострых сёньня пытаньняў - пытаньне аб Народным Фронце. Экстрэмізм, які ўсё загубіць, або ратунак для нацыі? Крыніца расколу грамадзтва або, насупраць, ядро яго кансалідацыі? Зародак альтэрнатыўнай партыі ці прадвесьнік грамадзтва, дзе ня будзе партый, таму што ня будзе варожых класаў?

Народны Фронт, калі верыць энцыклапедычнаму слоўніку, гэта форма арганізацыі шырокіх мас для абароны інтарэсаў працоўных, барацьбы за дэмакратыю. У шэрагу сацыялістычных краін народнымі франтамі называюць аб'яднаньні палітычных партый і іншых масавых арганізацый. Адно гэта робіць недарэчнымі абвінавачваньні БНФ у "агрэсіўнасьці" назвы. Літаральна ж слова "фронт" азначае "пярэдні край", у даным выпадку - "авангард".

Але ж у нас ужо ёсьць "палітычны авангард" у выглядзе КПСС! Рызыкну выказаць меркаваньне, што Народныя Франты ў шэрагу саюзных рэспублік і абласьцей РСФСР адыгрываюць ролю "пярэдняга краю" менавіта ў такой ступені, ў якой гэтую ролю "недавыконвае" партыя па прычыне маральнага зносу яе апарата. Але аб гэтым пазьней.

З усіх Народных Франтоў найбольшую варожасьць мясцовых улад сустрэў, здаецца, БНФ. "Экстрэмісты", "нацыяналісты", "дэмагогі", "нападкі на партыю", "стварыць канфрантацыю" - так кляймiла беларуская партыйная прэса БНФ напярэдадні яго ўстаноўчага зьезду.

Партапарат ліхаманкава зьбіраў сходы ў калектывах, заклікаючы народ "не пушчаць". Асабліва вызначылася Магілёўская вобласьць, пабіўшая ўсе рэкорды палітычнай пільнасьці часоў выкрыцьця Троцкага і Пастэрнака. Трэба думаць, галоўная заслуга ў гэтым зладжана працуючай ідэалагічнай службы абкама партыі (сакратар па ідэалогіі - Л.У.Пакуш, загадчык ідэалагічнага аддзела - У.Н.Беланогаў). Аднак гэтага паказалася недастаткова і на Пленуме ЦК КПБ першы сакратар Я.Я.Сакалоў аб'явіў "новы этап палітычнай барацьбы з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі". Давялося актывістам БНФ ехаць "у эміграцыю" і праводзіць Устаноўчы зьезд у Вільнюсе.

І - атрымаўся казус. У паведамленьні аб зьезьдзе БелТА вымушана было прызнаць, што асноўным матывам зьезду БНФ стала кансалідацыя, а не "экстрэмізм". Аднак барацьба супраць БНФ працягваецца. Накіраванасьць яе некалькі зьмянілася і тым самым выкрыўся сапраўдны сэнс пазіцыі кіраўніцтва рэспублікі ў адносінах да БНФ. Галоўнае абвінавачваньне заключаецца сёньня ў тым, што БНФ выступае супраць адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы. Але ж хіба не XIX партканферэнцыя узаконіла для партыі адмаўленьне "бюракратычных метадаў, характэрных для адміністрацыйна-каманднай сістэмы"? Дзіўная атрымліваецца сітуацыя - Народны Фронт пасьлядоўней прытрымліваецца лініі партыі, чым ЦК КПБ ! Зрэшты, гэта й зразумела. "Пралетарыям" (як камуністам, так і беспартыйным) дзяліць няма чаго. А вось у кіраўнічым апараце шмат людзей, якім перабудова - што костка ў горле. А тут яшчэ адна "костка" - БНФ.

"Известия" (I ліпеня) пішуць, што старыя структуры кіраўніцтва аказваюцца сёньня бездапаможнымі. Яны ня могуць прадугледзець і папярэдзіць нарастаньне крызіснай сітуацыі. Гэтыя структуры трэба зламаць (ня будзем баяцца дакладнага слова!) і замяніць новымі формамі палітычнага жыцьця. Аднак у гэтых бездапаможных структурах, як прызнаў Н.Рыжкоў, "пры фактычна страчаных уплыве, уладзе, магчымасьці ўзьдзейнічаць на ўсё, што адбываецца ў грамадзтве, .. працягвае захоўвацца выгляд, што нічога асаблівага не адбылося, што, як і раней, асноўныя рычагі знаходзяцца ў нашых руках.. " А БНФ "зьдзірае" гэты выгляд. Ці не тут разгадка адносін да яго ?..

# АД ІМЯ ПАКРЫЎДЖАНЫХ

М. Булавацкі

Народны Фронт Магілёва выйшаў на новы этап свайго разьвіцьця. Аб гэтым сьведчыць хаця б тое, што партапарат пачаў яго ВЫВУЧАЦЬ: аналізаваць, класіфікаваць, тлумачыць. Па-свойму, зразумела.

Узначальвае "дасьледчую групу" ідэялагічны сакратар абкама Л.У.Пакуш. (Мусіць, пасада прымушае. Хаця, дарэчы, я ня ведаю,хто вышэй: сакратар па ідэялогіі ці загадчык ідэялагічнага аддзела? Здаецца мне,адну з гэтых пасад разумна было б скараціць - дарую гэтую ідэю Васілю Севасьцьянавічу. Чатыры тысячы руб. у год - гэта ж грошы! А ў краіне каля 200 вобласьцяў ды яшчэ буйныя гарады... Перамножыць - шалёная лічба атрымаецца. На гэтыя грошы можна было б пабудаваць дзе-нібудзь новы будынак абкама, які затым зрабіць Домам творчасьці піянераў...) Перш за ўсё яна сістэматызавала і класіфікавала актывістаў БНФ у Магілёве і гэтай класіфікацыяй ахвотна дзеліцца з апаратнымі работнікамі рознага ўзроўню.

Аказваецца, сярод магілёўскіх ініцыятараў руху БНФ за перабудову "Адраджэньне" ёсьць такія, хто сапраўды заклапочаны дзейснасьцю перабудовы і чамусьці - памылкова, канешне,- пайшоў са сваімі клопатамі не ў абкам, а да "нейкага" Народнага Фронта. Аднак большасьць складаюць экстрэмісты, кар'ерысты і-асаблівa - чымсьці пакрыўджаныя.

Да апошніх аднесены і аўтар гэтых строк. Пералічаны ўсе мае крыўды: ад рэпрэсіраванага бацькі ў гады сталіншчыны да сёняшняга дня, на які я ўжо адзінаццаты год жыву ў інтэрнаце, ня маючы магчымасьці забраць да сябе старэнькую хворую матулю,што жыве адна ў далёкай вёсцы. Усё тут праўда. Аднак ці з'яўляецца мой лёс нейкім выключэньнем? Не! Каб такіх пакрыўджаных было 10 - 20, дык усё было б проста: даць аднаму кватэру, другому - кампенсацыю за заўчасную сьмерць бацькоў, трэцяга аднавіць на пасадзе, зь якой незаконна звольнілі... І ўсё! - людзі супакоіліся, Народны Фронт распаўся. Ідылія! Жыві - не хачу!..

Чаму ж так ня робіцца? Бо пакрыўджаных у нас ня 10-20! Колькі ж? Сабяры ўсіх жыхароў Беларусі на адным вялікім полі і спытай, хто зь іх пакрыўджаны бюракратычным апаратам. Толькі не забудзь заткнуць вушы, бо можаш аглохнуць ад мільёнагалоснага гоману!

Добра жылось бюракратыі, калі з гэтых мільёнаў кожны паасобку крычаў аб сваіх крыўдах (а большасьць маўчалі, стаміўшыся ад безнадзейнага лямангу). Цяпер жа, калі пакрыўджаныя вырашылі аб'яднацца, каб выдыхнуць разам сваю боль, свае крыўды, каб увесь сьвет убачыў, што гэта ня крыўды некалькіх людзей, а крыўды ўсяго шматпакутнага народа, бюракратыя захвалявалася.Па-першае, шкада тых ільгот, якія яна прыдбала для сябе дзякуючы крыўдам народа. Па-другое, палохае адчуваньне сваёй няздольнасьці да вырашэньня праблем у такіх маштабах. Бо тут патрэбны іншыя сродкі, іншыя метады, іншае мысьленьне, чым тое, якім карысталіся апаратныя функцыянеры амаль усё сваё сьвядомае жыцьцё. Вось таму і паўстаюць яны, вядомыя сваім правадыром Яфрэмам Сакаловым, на "грамадзянскую вайну" супраць абуджэньня прыгнечанага народа (а можна назваць гэта вайной і без двухкосься, калі прыгадаць падзеі 30 кастрычніка ў Менску).

Навошта Народны Фронт! - ляман-

туюць яны. - Сёньня трэба аб'ядноўваць сілы вакол ядра - партыі. Партыя сама здольная выправіць становішча. Менавіта яна пачала перабудову! - і ківаюць на Гарбачова.

Справа ж у тым, што Гарбачоў і Сакалоў, партыя і партыйны апарат - гэта розныя рэчы, па многіх пунктах несумяшчальныя. Партыя зможа выправіць становішча, калі зможа зьмяніць структуру свайго апарата, калі зможа абаперціся на ўсе свае 17 мільёнаў пар ног, а не на рахітычныя канечнасьці невялікага кола "прафесійных" апаратчыкаў, калі ня будзе дапускаць да ключавых пастоў камуністаў тыпу Сьлюнькова, Лігачова, Сакалова, Таразевіча, дзеяздольнасьць якіх выклікае вялікія сумненьні, а маральныя якасьці - недавер.

І крыху аб тым, хто пачаў перабудову. Гарбачоў? А можа да яго Андропаў? А можа яшчэ раней Хрушчоў? А ў нашай рэспубліцы Машэраў? Урэшце - партыя? Аднак давайце не забудзем і такіх беспартыйных, як Андрэй Сахараў, Аляксандр Салжаніцын, Васіль Быкаў і шмат іншых. Дык ці не лепей сказаць так: перабудову пачалі лепшыя людзі краіны - камуністы і беспартыйныя! Не аддаючы прыярытэту ні партыі, ні таварыству, ні аб'яднаньню, ні камбінату "Трохгорная мануфактура", які ў нас заўсёды выступае з пачынамі.

А калі гэта прыняць, то заканамерна паўстае пытаньне: вакол каго аб'ядноўвацца? Вакол Сакалова з яго паслужліва-камандным апаратам (паслужлівым у адзін бок і камандным у другі - з'ява адміністрацыйнай паўправоднасьці)? Ці вакол тых, хто менавіта пачаў перабудову, і тых, хто актыўна садзейнічае яе здзяйсьненьню, - Быкава, Адамовіча, Пазьняка, Габрусева, Ігнатовіча і ім падобных?

Да апошніх у мяне даверу болей, бо яны з той жа кагорты пакрыўджаных. Таму я зь імі. Супраць сучаснага апарата, выразным прадстаўніком якога зьяўляецца Я.Сакалоў. Дарэчы, гэтая фігура дапамагае арыентавацца мне ў сваіх адносінах да апаратных функцыянераў (усё ж, некаторыя зь іх захавалі нейкую здольнасьць да незалежнага мысьленьня і незалежных паводзін - якасьці, якія апарат жорстка і дзелавіта вытраўляе ў сваіх служкаў). Дастаткова мне было пачуць ад старшыні аблвыканкама А.Т.Кічкайлы на перадвыбарчай сустрэчы зь ім такія словы: "У Беларусі застою не было, мы заўсёды выконвалі планы. І Сьлюнькоў, і Сакалоў - дастойныя пераемнікі справы Машэрава...", як стала зразумела, за каго і супраць каго аддаць свой голас: наўрад ці знойдзецца для Пятра Міронавіча Машэрава большая зьнявага, чым такое "суседства".

Такім чынам, БНФ супраць апаратнай бюракратыі? Якімі ж сродкамі будзе весьціся барацьба? Гэта адно з галоўных пытаньняў, бо людзей палохае сама магчымасьць размежаваньня грамадства, якое можа дайсьці да кровапраліцця.

...Успамінаюцца словы адзінаццацігадовага Валодзі Ульянава, сказаныя ім у дзень пакараньня брата: "Мы пойдзем другім шляхам!"

Ужо больш за 70 год мы ідзем гэтым шляхам. Толькі цяпер надумалі азірнуцца назад, агледзець, якое шчасьлівае грамадства мы збудавалі. Тут я перадам слова Андрэю Сіняўскаму: "...Каб назаўсёды зьніклі турмы, мы панабудоўвалі новых турмаў. Каб палі межы паміж дзяржавамі, мы акружылі сябе кітайскай сьцяной. Каб праца ў будучым стала адпачынкам і задавальненьнем, мы ўвялі катаржныя работы. Каб не пралілося болей ані воднай каплі крыві, мы забівалі, забівалі, забівалі... У імя Мэты прыходзілася ахвяраваць усім, што было ў нас у запасе, і зьвяртацца да тых жа сродкаў, якімі карысталіся нашы ворагі, - услаўляць вялікадзяржаўную Русь, пісаць хлусьню ў "Праўдзе", садзіць цара на апусьцелы трон, уводзіць пагоны, катаваньні... І мы ўстаем, хістаючыся ад стомленасьці, і абводзім зямлю налітымі крывёю вачамі, і не зна-

ходзім вакол сябе тое, што чакалі знайсьці. Кастры інквізіцыі дапамаглі зацьвердзіць Евангеле. Але што засталося пасьля іх ад Евангелія?.. " (Надрукавана ў Спутніку Маскоўскага кінафестывалю-89 "СКИФ").

Магчыма, яшчэ знойдуцца такія, хто хацеў бы і далей ісьці гэтым шляхам. Мы ж будзем шукаць трэці шлях – шлях, які не прадугледжвае крыві. Бо грамадзтва, пабудаванае на крыві і пакутах, ня можа быць справядлівым. Мы ня будзем адказваць крыўдамі на крыўды (калі не лічыць крыўдай простае ўстанаўленьне справядлівасьці: кожнаму – па заслугах на аснове Закона). Мы ня будзем шукаць помсты. Адзінай нашай помстай будзе стварэньне такога грамадзтва, такога дзяржаўнага ўладкаваньня, у якім ня будзе пакрыўджаных.

Мы знойдзем такі шлях.

Мы пойдзем трэцім шляхам!

Сябры! Усе, хто пакрыўджаны і шукае справядлівасьці! Усе, хто хоча жыць па сумленьні ў дэмакратычным грамадзтве раўнапраўных грамадзян! Усе, хто жадае, каб квітнела родная Беларусь! Аб'ядноўвайцесь у БНФ!

## ХРОНІКА ВАЖНЕЙШЫХ ПАДЗЕЙ

Існаваньне Народнага Фронту ў Магілёве можна беспамылкова адлічваць з дня Выбараў 26 сакавіка. Дагэтуль актыўнасьць больш-менш праяўляла толькі філія таварыства "Мартыралог Беларусі", аб чым будзе расказана пазьней. Таму сёньняшні агляд хронікі пачынаем з 26.03.89.

11 красавіка. 52-я угодкі Цішкі Гартнага філія "Мартыралогу" (перш за ўсё намаганьнямі Т.Раманьковай і групы мастакоў) адзначаны адкрыцьцём памятнага знака на месцы захаваньня пісьменьніка-рэвалюцыянера і ускладаньнем вянкоў. У мітынгу-рэквіеме прынялі ўдзел пісьменьнікі Сяргей Гракоўскі і Эрнест Ялугін.

26 красавіка. На гарадской канферэнцыі ў Доме палітасьветы створана Экалагічнае таварыства. Пасьля канферэнцыі сябры "Мартыралогу" правялі на Савецкай плошчы гадзіну смутку ў памяць ахвяр Чарнобыля.

На плошчы Леніна ў Бабруйску таксама прайшла гадзіна смутку, там міліцыя спрабавала разагнаць людзей, што маўкліва стаялі з запаленымі сьвечкамі.

27 красавіка. Створана Магілёўскае аддзяленьне Таварыства беларускай мовы.

29 красавіка. Адбыўся Устаноўчы сход Камітэта садзеяньня дэмакратычным выбарам.

20 траўня. Філія "Мартыралогу" і Камітэт садзеяньня дэмакратычным выбарам правялі навукова-практычную канферэнцыю "Гісторыя і сучаснасьць".

28 траўня, 4 чэрвеня, 11 чэрвеня. Мітынгі на Савецкай плошчы.

24-25 чэрвеня. Адбыўся Устаноўчы зьезд БНФ у Вільні, дэлегатамі якога былі 22 магілеўца.

2 ліпеня. Народны Фронт правёў экалагічны нядзельнік у парку імя 60-годзьдзя Кастрычніка.

У той жа дзень – першы мітынг у Бабруйску, санкцыяваны мясцовымі ўладамі.

13 ліпеня. Адкрылась "Дыскусійная трыбуна" пры Доме палітасьветы. На першым пасяджэньні абмеркаваны праблемы мовы і нацыянальнай культуры. "Абуджэньне" плануе падрабязна асьвятляць гэтую тэматыку.

1 жніўня. На пленум абкама камсамолу былі афіцыйна запрошаны прадстаўнікі БНФ. Выступіў В.Голуб.

5 жніўня. Сустрэча народных дэпутатаў і прадстаўнікоў БНФ з кіраўніцтвам абкама партыі. Па многіх пунктах дасягнута ўзаемаўзгодненасьць. У прыватнасьці, атрыманы дазвол на устанаўленьне па горадзе стэндаў зь інфармацыяй БНФ.

6 жніўня. На несанкцыяваным мітынгу ў Бабруйску прынята рэзалюцыя, у якой выказаны недавер першаму сакратару гаркама партыі і старшыні гарвыканкама. З боку ўлад былі прадпрынятыя актыўныя спробы перашкодзіць правядзеньню мітынга, але яны мэты не дасягнулі.

Газета Казанского филиала АН СССР "Наука". 10.07.89 — Абуджэнье – I, 1989. 6

# *Отщепенец или провидец?*

Андрей Дмитриевич Сахаров – действительный член Академии наук СССР с 1953 г., член ряда зарубежных Академий, почётный доктор многих университетов, лауреат Государственной, Ленинской премий, Нобелевской премии мира и других премий, значительная часть которых ушла на благотворительные цели: на строительство Онкологического центра, на создание международного Фонда помощи детям политзаключённых, обществу Красного Креста и др. Трижды был удостоен звания Героя Социалистического Труда... За высказывания, противоречащие официальной линии, подвергался нападкам в прессе, а в январе 1980 г. был лишён правительственных наград и сослан в Горький (где и провёл под бдительным присмотром почти 7 лет жизни) вот после этого письма.

## ПРЕДСЕДАТЕЛЮ ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО СОВЕТА СССР Л.И.БРЕЖНЕВУ

Копии этого письма я адресую генеральному секретарю ООН и главам государств – постоянных членов Совета Безопасности.

Я обращаюсь к Вам по вопросу чрезвычайной важности об Афганистане. Как гражданин СССР и в силу своего положения в мире, я чувствую ответственность за происходящие трагические события. Я отдаю себе отчёт в том, что Ваша точка зрения уже сложилась на основании имеющейся у Вас информации (которая должна быть несравненно более широкой, чем у меня) и в соответствии с Вашим положением. И тем не менее вопрос настолько серьёзен, что я прошу Вас внимательно отнестись к этому письму и выраженному в нём мнению.

Военные действия в Афганистане продолжаются уже семь месяцев. Погибли и искалечены тысячи советских людей и десятки тысяч афганцев – не только партизан, но главным образом мирных жителей – стариков, женщин, детей, крестьян и горожан. Более миллиона афганцев стали беженцами. Особенно зловещи сообщения о бомбёжках деревень, оказывающих помощь партизанам, о минировании горных дорог, что создаёт угрозу голода для целых районов...

Также не подлежит сомнению, что афганские события кардинально изменили политическое положение в мире. Они поставили под удар разрядку, создали прямую угрозу миру не только в этом районе, но и везде. Они затруднили (а может, сделали вообще невозможной) ратификацию договора ОСВ-2, жизненно важного для всего мира, в особенности как предпосылка дальнейших этапов процесса разоружения. Советские действия способствовали (и не могли не способствовать!) увеличению военных бюджетов и принятию новых военно-технических программ во всех крупнейших странах, что будет сказываться ещё долгие годы, усиливая опасности гонки вооружений. На Генеральной Ассамблее ООН советские действия в Афганистане осудили 104 государства, в том числе многие, ранее безоговорочно поддерживающие любые действия СССР.

Внутри СССР усиливается разорительная сверхмилитаризация страны (особенно губительная в условиях экономических трудностей), не осуществляются жизненно важные реформы в хозяйственно-экономических и социальных областях, усиливается опасная роль репрессивных органов, которые могут выйти из-под контроля.

Я не буду в этом письме анализировать причины ввода советских войск в Афганистан – вызван ли он законными оборонительными интересами или это часть каких-то других планов, было ли это проявлением бескорыстной помощи земельной реформе и другим социальным преобразованиям или это вмешательство во внутренние дела суверенной страны. Быть может, доля истины есть в каждом из этих предположений... По моему убеждению, необходимо политическое урегулирование, включающее следующие действия:

1. СССР и партизаны прекращают военные действия – заключается перемирие.

2. СССР заявляет, что готов пол-

20 июня. Я же ознакомлен с протоколом 2I июня и указал в нём на его несоответствие действительности. В протоколе, в частности, указывается что "на предупреждения представителей местных органов власти о прекращении митинга не реагировал". Однако никаких разговоров с представителями местной власти во время встречи у меня не было.

По указанным причинам протокол является недействительным и не может служить основанием для привлечения меня к ответственности.

Показания свидетелей также не дают никаких оснований для того, чтобы считать меня организатором встречи. Их утверждения носят характер политических инсинуаций, откровенной клеветы и противоречат друг другу, на что я указывал в суде. Одна из свидетельниц, Чубраева М.А., как мне известно, является к тому же юридически недееспособной.

Как следует из объяснений свидетельниц, они не знают меня лично. Описывая мой внешний вид, они дают совершенно разные показания.

Из объяснения Низовцовой О.Ф.: "... открыл митинг мужчина, одетый в красную сорочку, лет 30..."

Из объяснения М.А.Чубраевой: "... увидела, что на крыльце стоит полный мужчина в синем плаще и через мегафон обращается к собравшимся..."

Из объяснения Л.И.Бедулиной: "... стоял какой-то мужчина невысокого роста, одетый вроде бы в красную короткую куртку, фамилию его я не знаю. Он говорил что-то, а что я точно сказать не могу."

На эти объяснения мне остаётся только добавить, что в моём гардеробе такой одежды нет. Кого имели в виду эти свидетели, не ясно. Совершенно очевидно, что судья Кужелева в своём решении не должна была основываться на таких свидетельствах.

Пояснения же свидетельниц о том, что я говорил на встрече, вообще не соответствуют действительности.

Председателем Координационного совета Народного фронта Могилёвской области тов. Голубом В.В., а также мною были поставлены в известность партийные и советские органы, а также Вы лично, о том, что I8 июня состоится встреча избирателей с народными депутатами СССР, в которой мы примем участие. Мы сообщили также о решении Координационного совета НФ не проводить митинга. Более того, учитывая возможность политических обвинений со стороны органов власти, мною непосредственно перед встречей было объявлено, что митинга не будет, так как на его проведение не получено разрешение горисполкома, но состоится встреча с депутатами. Сделано это было по просьбе депутатов. С их выступлений эта встреча началась, их выступлениями она и закончилась.

Учитывая, что органы власти были поставлены в известность о характере предстоящего мероприятия, действия правоохранительных органов с самого начала носили незаконный характер и были направлены на ущемление прав народных депутатов СССР и их избирателей.

В своём заявлении в суд я просил дать мне возможность ознакомиться с делом, вызвать в суд свидетелей, а также пригласить народных депутатов СССР Габрусева С.А. и Фоменко В.Л., так как они могут дать пояснения по существу дела. Судья Кужелева на моё заявление не отреагировала и вынесла решение по делу в отсутствие каких-либо свидетелей вообще, в нарушение процессуальных норм судопроизводства. Защиты моих прав в суде обеспечено не было, что явилось актом судебного произвола и беззакония.

На основании вышеизложенного прошу решение суда Центрального района г. Могилёва от 6.07.89 г. о привлечении меня к административной ответственности по ст. I67', ч.2, опротестовать как незаконное.

II.07.89 г. А. Фёдоров

# ПЫТАНЬНЕ... ХТО ЕСЬЦЬ МАЮ КАЎБАСУ?

На сходзе жыхароў раёна Казіміраўка з кіраўнікамі партыйных і выканаўчых камітэтаў Цэнтральнага раёна тав. Скобелеў на пытаньне "Калі ў Магілёве каўбаса будзе прадавацца па талонах?" адказаў, што гэтае пытаньне ўжо абмяркоўвалася на сходзе райвыканкама. Ён сказаў, што калі палічылі, колькі каўбасы прыходзіцца на аднаго жыхара Магілёва, то аказалася, што вельмі мала, усяго I30 грамаў у дзень на чалавека.

Я не зразумела, чаму тав. Скобелеву гэта паказалася мала. Гэта ж амаль 4 кг у месяц! Для мяне, напрыклад, гэта вельмі многа, бо такую колькасьць каўбасы я не мела магчымасьці купіць па дзяржцане за апошнія пяць год. І такіх, як я, многа. Мабыць, тав. Скобелеў памыліўся ў колькасьці. Але колькі б яе ні прыпадала на аднаго чалавека, гэты чалавек павінен мець магчымасьць гэтую колькасьць купіць. А паколькі я такой магчымасьці ня маю, то цікава, куды ідзе мая каўбаса? Хто яе есьць?

Прошына Р.С.

# ...І ВАРЫЯНТ АДКАЗУ

КАМІТЭТ ПА ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ ПРЫ МАГІЛЕЎСКІМ ГАРВЫКАНКОМЕ

КОМИТЕТ ПО ФИЗИЧЕСКОЙ КУЛЬТУРЕ И СПОРТУ ПРИ МОГИЛЕВСКОМ ГОРИСПОЛКОМЕ

гор. Могилев, ул. Первомайская, д. 73, тел. 96-2-74, 96-2-27.

№ 64 5 апреля 1985 г.

ДИРЕКТОРУ МОГИЛЕВСКОГО ГОРПИЩЕТОРГА

тов. ЩЕКУНОВУ М.К.

Отпустите 1 (один) икры

Комитет по физической культуре и спорту при Могилевском горисполкоме просит выделить I кг. икры для усиленного питания спортсменов, ведущих подготовку к ряду Всесоюзных и международных соревнований.

Председатель комитета В.Г.Юдко

Цікава, на колькі см павышаецца скакучасьць спартсмена пасьля ўжываньня ім I00 грамаў ікры? - Можа, тав. Юдко азнаёміць нас з матэрыяламі сваіх эксперыментаў? Ці можа гэты кілаграм дастаўся толькі аднаму "спартсмену"?

/падрабязьней - гл. ст. 14./

# ПРОКУРОРСКИЙ ШЛАГБАУМ

В начале 1986 года следственно-оперативная группа прокуратуры Ленинского района г.Могилёва, возглавляемая следователем В.Е. Столяровым, занималась расследованием должностных преступлений в ресторане станции "Могилёв". Группа оказалась настырной и "копнула" "слишком" глубоко: нити потянулись к аппаратной кормушке — магазину № 8 горпищеторга. Завмаг М.Е.Бенделикова была вызвана в прокуратуру на допрос в качестве свидетеля. Мы имеем возможность ознакомить читателей с протоколом допроса, опуская анкетные данные свидетельницы. Протокол составлен 24 апреля 1986 года следователем прокуратуры Ленинского района Могилёва младшим советником юстиции В.Е.Столяровым в присутствии оперуполномоченных ОБХСС Л.Л.Чубкова и О.П.Тихонова.

Свидетель показал: В магазине № 8 я работаю с 1977 года. Сначала я работала зав.отделом магазина, а теперь заведующей магазина. Заведующей отделом я работаю на протяжении последних пяти лет. За всё время моей работы зав.магазином к нам в магазин поступали дефицитные и пользующиеся повышенным спросом покупателей продукты питания, кондитерские изделия, спиртные напитки. Поступали они через торговый отдел горпищеторга. Большей частью эти продукты и спиртное реализовывались через магазин. Но такие продукты, как индийский чай в банках, рулеты, водка любая (беловежская, русская и других наименований) в штофах, икра, импортный кофе, дефицитные конфеты в коробках реализовывались нами со складов следующим образом: директор горпищеторга Цикунов давал мне список лиц, которые могли получить эти товары со склада магазина, поскольку эти товары на прилавке не стояли. Согласно этих списков я и отпускала указанные дефицитные продукты питания. Списки эти были составлены на каждого покупателя персонально. Согласно списков я делала пакеты куда вкладывала этот список с перечнем отпущенных продуктов. За этими пакетами приезжали различные водители, но фамилий водителей или лиц, систематически получавших пакеты из склада, я не помню. Иногда Цикунов направлял ко мне с записками лиц, которые якобы получали продукты питания (икру) в онкологию. Подобные записки с указанием количества товаров, подлежащих выдаче, хранятся у меня в сейфе и я обязуюсь их выдать. Из базы "Белбакалея" индийский чай привозил всегда водитель. Кроме чая он привозил и кондитерские изделия. В то время, когда мы получили 3 ящика индийского чая (72 банки)-получили мы их в конце 1985 года, точной даты я не помню, по словам зав. отделом Сафроновой, она отдала три банки чая водителю Турова, т.к. последний сказал, что чай нужен для Турова и Сафронова не посмела ему в этом отказать, выдала требуемый чай. 26 марта 1986 года от Турова мы получили ящик индийского чая в банках (24 кг, 48 банок чая). Чай этот стоит у нас на складе по распоряжению Цикунова и не реализуется. На складе у нас стоит и Бразильский кофе, точного количества не помню, но вроде бы 6 ящиков, т.е. 140 банок. Кофе этот тоже не реализуется по указанию Цикунова, т.к. предназначен для пакетов. Рулеты мы получили вчера. При их получении я не присутствовала. Сколько их мы получили, я не знаю. Они хранятся на складе. Они также предназначены для пакетов. Сколько на складе находится зубровки в штофах я не помню, но она предназначена для приезжающих в Могилёв иностранных гостей. В пакеты она не вкладывается. Вермут в литровых бутылках оказался на складе потому, что мы случайно заставили его ящиками. Все эти продукты питания сегодня обнаружили сотрудники ОБХСС на складе, т.е. они обнаружили предназначенные для пакетов продукты питания на

складе магазина, который располагается на базе горпищеторга.

Далее рукою М.Е.Бенделиковой дописано:

Уточняю список давался только к празднику оставшиеся продукты продавались в магазине. В остальном протокол записан правильно и прочитан мною. Подпись.

Полагаем, что у читателя сейчас не менее оглушённое состояние, чем это было у нас при первом знакомстве с документом.

Оказывается, в нашем замызганном, затравленном Могилёве, где верхом деликатеса является колбаса "родного" мясокомбината по комиссионным ценам, можно найти такую экзотику: индийский чай, икру, бразильский кофе (из уважения к такому невиданному продукту Валерий Евгеньевич даже написал его с большой буквы).

Понимаем, что следующим документом мы совсем добьём слабонервных; поэтому людей, не уверенных в своём здоровье, просим сразу перевернуть страницу. Остальных же (так сказать, для полноты картины) подразним ассортиментом пакета, подготовленного для некоего т. Зайцева Ф.В. (указан и адрес, и телефон "счастливца").

**А С С О Р Т И М Е Н Т**

| | | | |
|---|---|---|---|
| I. | Мясо свиное | – 2-00 | — 2 кг = 4-08 |
| 2. | Мясо гов. | – I-90 | — 1 кг 1,2 = 4-23 |
| 3. | Кролики | – 2-00 | — 2 кг 2x1-50 = 3 |
| 4. | Сердце | – 0-60 | — 2 кг 1,9 1-14 |
| 5. | Куры | – I-60 | — 1 шт 2,1 = 3-36 |
| 6. | Утки | – I-20 | —— |
| 7. | Печень гов. | – I-30 | — 1 кг 1,150 = 1-50 |
| 8. | Язык | – I-90 | — 2 кг 2,2 = 4-18 |
| 9. | Ноги свин. | – 0-45 | — 2 кг 0-90 |
| I0. | Ноги гов. | – 0-20 | — 2 кг = 0-46 |
| II. | Колбаса т/к москов. | – 3-80 | — 2 кг 1,950 = 7-40 |
| I2. | -"- одесская | – 2-60 | — 2 кг = 5-20 |
| I3. | -"- докторская | – 2-20 | — 0,5 кг 0,550 = 1-21 |
| I4. | -"- любительская | – 2-80 | —— |
| I5. | Рулет | – 3-50 | — 1 кг 0,6 = 2-10 |
| I6. | Грудинка по-крестьянски | – 2-60 | — 1 кг = 2-50 |
| I7. | Шинка | – 3-50 | — 1 0,950 = 3-30 |
| I8. | Балык свиной | – 3-I0 | — 1 кг = 3-10 |
| I9. | Ветчина московская | – 3-50 | — 1 кг 0,9 = 3,15 |
| 20. | Зелёный горошек | – 0-49 | — 3 банки = 1-17 |
| 2I. | Кофе натуральный | – 6-00 | — 1 — 6 р |
| 22. | Икра красная в/б | – 4-20 | — 1 — 1x5-50 = 5-50 |
| 23. | Сельдь иваси I/I200 | – 2-60 | —— |
| 24. | Майонез | – 0-5I | — 3 б 1-02 |
| 25. | Томаты | – 0-40 | — 3 = 1-20 |

За меш 0-32

66-02

М-да! Уткой и любительской колбасой из "ассортимента" Ф.В.Зайцев побрезговал, рулетом его немного обидели: просил I кг, а дали только 600 г, но в остальном жить можно. Интересно, сколько таких "ассортиментных" Зайцевых кормит "восьмёрка"?

Достаточно было вот такого простенького документика,- и сердобольная Мария Ефимовна по щучьему велению находила и без бюрократической волокиты отпускала хорошим, нужным людям и лососину, и осетрину, и икорочку, и беловежскую в штофах...

г. Островец А2

Решить. [signature] 5.11.83

Прошу Вас, Мария Ефимовна отпустите икры лососевой и осетровой [signature]

Однако вернёмся к следователю В.Е.Столярову. Впрочем, он уже не следователь. После злополучного допроса завмага прокурор области Л.Ф.Николаев потребовал передать все материалы дела в Ленинскай РОВД, где они и"растаяли". В.Е.Столярову пришлось искать себе работу уже не в органах. М.Е.Бенделикову сразу же услали на курсы повышения квалификации, после чего пересадили на другое уютное место.

А что же тут удивляться? Областному прокурору тоже балык с икрой есть хочется и Бразильским кофеем запивать.

/Продолжение, возможно, последует/

## И У НАС СВОЙ ПАРНАС

### ГДЛЯНУ И ИВАНОВУ

(автор, являющийся партработником, просил не называть фамилию)

Копнули глубоко и вышли... на Москву.
- Итог каков? - С работы полетели.
Свалить не так-то просто голову,
Хотя она давно гниёт на теле.

---

Александр ФИЛИПЧЕНКО

### ЕГО ПРЕДВЫБОРНАЯ БЛАТФОРМА

(сокровенно-бюрократическое)

Эх, дожить бы до пенсии...
Ох, как хочется мне,
Чтоб с задором и песнями
Шёл народ по стране!
Чтоб плодилось и роилось,
И само всё росло,
И само перестроилось
Демократам назло.
Чтоб, как прежде, при Лёнечке,
Нас народ уважал.
Чтобы править тихонечко-
И никто не мешал!

1989

Зьяўленне далейшых нумароў цалкам залежыць ад вашых ахвяраваньняў, збор якіх адбываецца па аўторках пасьля 18-00 у Палацы культуры завода імя Куйбышава. Там жа: рэгістрацыя груп падтрымкі, прыём прапаноў па Праграме і Статуту БНФ, збор карыснай для БНФ інфармацыі, складанне сьпісу магчымых кандыдатаў у народныя дэпутаты і інш.

Нумар падрыхтавалі М.Булавацкі і В.Васількоў